# ПАГОНЯ

*РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ-ВІЛЬНЯ-БЕЛАСТОК* *ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.*

*№ 16(72)* *27 траўня-2 чэрвеня 1994 г.* *Кошт 150 руб.*


**В.КЕБІЧ ПАЦАЛАВАЎ ФІЛЯРЭТУ РУКУ.** *Такога яшчэ ня ведала гісторыя царквы на Беларусі.*

**ПАСОЛ ЗША Ў ЛЕТУВЕ ДАРЫЛ ДЖОНСАН:** *У адносінах стала больш практычнага зьместу.*

*«Ведайце пра тое, што ў далёкім ад Бацькаўшчыны Квэбэку* **вы маеце гарачых вашых прыхільнікаў».**

**ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ:** *Менск – Варшава – Масква.*



## ЛЯ ВОБРАЗА ЗАСТУПНІЦЫ БЕЛАРУСКАЙ – ПРЫСНАДЗЕВЫ МАРЫІ

Штогод 20 траўня праваслаўныя паломнікі з усёй Беларусі прыяжджаюць да Жыровіцкага Пакрова-багародзіцкага кляштару, каб прысутнічаць на сьвятых малебнах у гонар Багародзіцы Дзевы Марыі.

Паданьне, якое налічвае больш 500 год, распавядае так: "Да пастушкоў, што пасьвілі статак, зьявілася на камні Багародзіца й падала ім вобраз з сваёй выявай. Пастушкі пра незвычайную зьяву распавялі свайму пану Патоцкаму й аддалі яму вобраз. Пан схаваў вобраз да куфэрка. Праз некалькі дзён вобраз наноў зьявіўся пастушкам, але ўжо на грушы. Пра гэты выпадак пану таксама давялі. Пан адчыніў куфэрак і не знайшоў там вобраза.

Агульна было вырашана збудаваць царкву, дзе павінен захоўвацца вобраз. Царкву збудавалі з дрэва. Неўзабаве ўсчаўся пажар, драўляны будынак згарэў, а вобраз, які знаходзіўся ў царкве, агонь ня зьнішчыў.

З-пад грушы, дзе наноў пастушкам зьявіўся вобраз, забіла крыніца, вада якой мела гаючыя якасьці. Месца праваслаўныя вернікі сталі лічыць сьвятым. У гонар зьявы вобраза Багародзіцы збудавалі кляштар."

Сёлетні фэст у Жыровічах быў знамянальны, бо ўшанаваў больш як 500-гадовую гісторыю падзеі, якую ведае ўвесь хрысьціянскі сьвет. Мітрапаліт Менскі й Слуцкі Экзаршый патрыярх Беларусі Філярэт распачаў ранішнюю службу з кароткага аповяда пра гісторыю зьявы вобраза Багародзіцы бліз Жыровічаў словамі: "Вобраз Багародзіцы - гэта сымболь Беларусі, бо Прыснадзева Марыя зьяўляецца абаронцай беларускага народа."

Пасьля ранішняй службы пачынаецца вадохрышча. Вернікі йдуць крыжнай хадой да Сьвятога вытока, дзе іх чакае купель. Лічыцца, што той, хто тройчы акуне галаў да гаючай вады вытока, пазбавіцца ўсялякай заганы.

Ля вытоку хоры пяюць сьвятыя псалмы. Вернікі, а ў іх ліку нядужыя, юродлівыя, раз-пораз увахОдзяць да купелі. Айцец Сьцефаній рэяводзіць шэсьцем. На тварах людзей прамяніцца ўзьнёсласьць, натхненьне, урачыстасьць.

Ад купелі вернікі йдуць слухаць чытаньне акафіста. Прама на вуліцы айцец Мітрафан, якому ўжо за 90 год, распачынае агульную малітву за ўсіх нямоглых, хворых, пакалечаных.

Пад сьпевы пеўчай да галоўнага хору Багародзіцкага сабора наноў уносяць вобраз Прыснадзевы Марыі. Вячэрнюю службу вядзе ізноў Мітрапаліт Менскі й Слуцкі Філярэт. Ён кажа словы за здаровых, просіць малітваю Бога за памерлых. Распавядае пра цяжкасьці нашага часу, раіць набрацца моцы, цярпімасьці, перацярпваць у цяжкі момант гісторыі. Абяцае, што ўся праваслаўная царква Беларусі будзе маліцца за народ наш беларускі. Ён згадвае пра тыя цуды, якія стварыліся, дзякуючы сьвятому вобразу Багародзіцы. Вячэрняя імша дабягае свайго заканчэньня.



Скончыўся й вялікі сьвяты фэст праваслаўя на Беларусі, на зямлі Жыровіцкай. Да сустрэчы праз год, сьвятыя муры Жыровіцкага кляштара!

**Зінаіда ЖУК,**
**Жыровічы - Горадня.**

## ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

Міністр юстыцыі Й.Прапестыс прапанаваў членам Сэйма стварыць новае ведамства - Міністэрства па справах рэформы й самакіраваньняў. Прадстаўнікі апазыцыі выступілі супраць гэтага, але іх аргумэнты не знайшлі водгуку сярод членаў ЛДПТ і польскай фракцыі. Яны амаль аднагалосна выказаліся за стварэньне новага міністэрства. Такім чынам, іх колькасьць у Летуве павялічылася да дзевятнаццаці.

***

Дагавор аб супрацоўніцтве падпісаны ТВ Летувы й ТВ Польшчы. Тэрмін яго дзеяньня - тры гады. Ім прадугледжваецца абмен праграмамі, тэхнічнымі сродкамі, шырокае супрацоўніцтва.

Дагаворам прадугледжваецца, што ТВ Летувы будзе рыхтаваць спэцыяльную праграму на польскай мове, а ТВ Польшчы - праграму для летувісаў Польшчы. Апошнія будуць трансьлявацца праз рэгіянальную станцыю ў Варшаве, падобную плянуецца стварыць і ў Беластоку.

***

Паланга патрабуе кампэнсаваць курорту страты, якія паўстануць у выніку будаўніцтва нафтавага тэрмінала: выдзяліць гораду каля 50 працэнтаў прыбытку будучага тэрмінала - на разьвіцьцё інфраструктуры Палангі й Шветойі й карэктыроўку генплана курорта (тэрмінал па сутнасьці зьмяняе ўсю паўночную частку горада).

Акрамя таго, патрэбны дадатковыя асігнаваньні на завяршэньне будаўніцтва ачысных збудаваньняў у Буцінге, кампэнсацыю жыхарам, высяляемым з тэрыторыі будаўніцтва тэрмінала й іншае. У агульнай суме гэта складзе некалькі мільёнаў даляраў.

На думку гендырэктара "Нафты" Б.Вайноры, патрабуемыя ўладай Палангі кампэнсацыі могуць перавысіць кошт тэрмінала, і выдаткі ніколі не акупяцца.

***

Служачыя пасольства Летувы ў Менску адшукалі ў адным з гатэляў сталіцы Беларусі фірму, якая за 20 даляраў ЗША прадавала пабробленыя летувіскія візы. Сума афіцыйнага консульскага збору ў чатыры разы меней, але ж у Беларусі візу атрымаць вельмі цяжка.

У консульскім аддзеле працуюць толькі чатыры чалавекі й не пасьпяваюць рабіць візы ўсім жадаючым (штодзённа падаецца 600-700 прашэньняў).

***

Урад Летувы выдзяліў з свайго рэзэрвовага фонда 1 мільён літаў для падтрымкі вучоных краіны. Гэта было зроблена пасьля таго, як вядомы мецэнат Джордж Сорас выдзяліў дадаткова створанай ім дабрачыннай арганізацыі - Міжнароднаму фонду навукі - доўгатэрміновую датацыю ў суме 250 тысяч даляраў ЗША з умовай, што Летува дасьць такую ж суму.

***

Трэці раз у летувіскім выставачным цэнтры "Літэкспо" праводзілася міжнародная спэцыялізаваная выстава сельскай гаспадаркі, харчовай і ўпаковачнай прамысловасьці. У ёй прынялі ўдзел 236 кампаній і фірмаў з 21 краіны. "Agro-Balt-94" пераўзышла ўсе чаканьні. За чатыры дні яе наведала звыш 100 тысяч чалавек з Летувы, Латвіі, Беларусі, Расеі, іншых краін. На выставе пабываў прэзідэнт Летувіскай Рэспублікі А.Бразаускас.

***

Летась у Каўнасе зьдзейсьнена 23 забойствы. У чатырох выпадках была прыменена агнястрэльная зброя. Раскрыта толькі адно злачынства. 10 чалавек атрымалі агнястрэльныя раненьні.

Падчас вобыскаў паліцыя канфіскавала 12 ствалоў, палова - самаробныя (нагадваюць шарыкавыя ручкі, мадэрнізаваныя газавыя ці нават цацачныя пісталеты).

***

Уладальнік адной з прамтаварных крамаў Клайпеды выставіў на вітрыну жывыя манекены. Рэклямаваць такім чынам прадукцыю пагадзіліся студэнты мясцовай музычнай акадэміі. Дзённая выручка камэрцыйнай крамы павялічылася ў некалькі разоў. Студэнты, пастаяўшы ў вітрыне свае выхадныя дні, атрымліваюць 3 стыпендыі наяўнымі кожны.

***

Лепшы футбаліст Летувы мінулага года Вальдас Іванаускас хутчэй за ўсё будзе гуляць за які-небудзь з турэцкіх клюбаў ("Галатасарай", "Фенербахче", "Бешэкташ", "Трабзонспар"), якія праяўляюць да яго цікаўнасьць. Хаця клюб "Гамбург" і прапанаваў яму працягнуць кантракт яшчэ на два гады, рабіць гэта ён пакуль не зьбіраецца: ня поўнасьцю задавальняюць фінансавыя ўмовы кантракта. Па яго словах, у Турцыі ён зможа зарабіць столькі, што хопіць на ўсё жыцьцё, хаця ў Нямеччыне гуляць прэстыжней.

**МГ-ЛР**

# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## ЯК КЕБІЧ ФІЛЯРЭТУ РУКУ ЦАЛАВАЎ

Імша 20 траўня ў Жыровіцкім Пакрова-Багародзіцкім саборы была ў самым разгары. Нечакана між натоўпу вернікаў пачалося хваляваньне. Людзі ў цывільным і міліцыянты старанна стваралі бліжэй алтара вольнае месца. Менавіта тут у суправаджэньні ня меней 10 асобаў зьявіўся прэм'ер-міністр Беларусі В.Кебіч. Вячаслаў Францавіч быў у карычневым строі й трымаў вялікую сьвечку ў руках. Ахоўнікі пільна сачылі за вернікамі, а Вячаслаў Францавіч час ад часу асяняў сябе крыжам.

Заўважыў стараньне прэм'ера да малітвы й Мітрапаліт Філярэт. Узяў ды й прайшоўся з высокім госьцем падручку. І каб дагадзіць прэм'еру, дазволіў таму выступіць з прамовай, за што В.Кебіч напрыканцы пацалаваў Філярэту руку. Так сьвяты фэстператварылі ў пляцоўку агітацыі за кандыдата ў прэзідэнты В.Кебіча. Такога яшчэ ня ведала гісторыя праваслаўнай царквы на Беларусі.

**Г.СТЭЛЬМАШОНАК.**

## ПРАВАСЛАЎНЫЯ СЫМПАТЫЗУЮЦЬ З.ПАЗЬНЯКУ

Як ні стараліся на фэсьце ў Жыровічах прыхільнікі за В.Кебіча й А.Лукашэнку распаўсюджваць улёткі, казаць прамовы ў падтрымку сваіх абранькікаў, большасьць праваслаўных вернікаў не пажадала іх слухаць. Затое многія з задавальненьнем бралі ўлёткі з выявай лідара БНФ З.Пазьняка. Адна з распаўсюджвальніц улётак Зянона Станіслававіча паведаміла: "У мяне людзі разабралі больш за 500 асобнікаў. Прасілі яшчэ. На жаль, усім не хапіла."

**Г.МЫСЬЛІВЕЦ.**

## ГАВОРКА БУДЗЕ АБ ВЫБАРАХ

Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" і Інстытут Крыбла (ЗША) 30 траўня 1994 года праводзяць ў Горадні міжнародную навукова-практычную канфэрэнцыю на тэму "Тэхналёгія правядзеньня дэмакратычных выбараў на Беларусі."

У ёй прымуць удзел вучоныя й спэцыялісты незалежнай фундацыі кангрэса ЗША, вядомы палітолаг і сацыёлаг Джон Экснішас, намесьнік старшыні БНФ Юры Хадыка, сацыёлаг Аляксей Хадыка. Акрамя іх - сябры раённай і гарадзкіх арганізацый БНФ, сябры Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады, Аб'яднана-Дэмакратычнай партыі Беларусі, Беларускай сялянскай партыі, прадпрымальнікі, прамысloўцы, іншыя прыхільнікі правядзеньня рэформаў у рэспубліцы. Канфэрэнцыя адбудзецца ў вабласным цэнтры народнай творчасьці, што па вуліцы Савецкай, 8. Час працы: з 14 да 23 гадзін.

Да ўдзела ў ёй запрашаюцца журналісты.

**Ул.інф.**

## ПАРУШЫЎШЫ ПАДМУРАК-РАЗБУРЫШ ДОМ

Клюб "Дэпутаты за рэформы" з Менску прыняў зварот да грамадзкасьці Беларусі аб абароне Канстытуцыі. У ім, у прыватнасьці, гаворыцца: "Нядаўна мы заклікалі прадстаўнікоў улады ўстрымацца ад парушэньня законаў і Канстытуцыі падчас выбараў. Але напярэдадні выбараў мы ўсё ж сталі сьведкамі найвялікшага злачынства - парушана Канстытуцыя... У той жа час нам вядома прынцыповая пазыцыя Старшыні ВС РБ Мечыслава Грыба па абароне Канстытуцыі. Таму мы заклікаем усе дэмакратычныя арганізацыі, усіх сумленных грамадзян Рэспублікі Беларусь, тых, хто ня хоча жыць па правілах мафіі й патураць карупцыі, згуртавацца й стварыць Камітэт у абарону Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Толькі Закон абараняе ўсіх."

Каардынаты для сувязі з Клюбам: 43-88-21, 63-71-84, 21-09-51; 220141, Менск, а/с 93.

**Ул.інф.**

## ДАЛОЎ АБЫЯКАВАСЬЦЬ!

Як мы будзем жыць у далейшым, - пачалавечы ці не, - будзе залежыць ад нас саміх. Наколькі мы разьбярэмся, за каго галасаваць пры выбары Прэзідэнта.

Да таго зьдзеку, што сёньня існуе, напрыклад, з нашымі зарплатамі ці коштамі, мы ніколі б не дайшлі, калі б арганізавана выйшлі на заклік антыкамуністычных сіл у жніўні 1991 года на пляц Незалежнасьці. Хутчэй за ўсё тады праявілася абыякавасьць да свайго лёсу. Затое атрымліваем сёньня штодня "падарункі" ў выглядзе падвышэньня цэнаў ад камуністычнай намэнклятуры. Тае намэнклятуры, якая здольная ісьці на самыя нізьменныя й злачынныя ўчынкі.

Глядзіце, латышы альбо эстонцы тады не разгубіліся. "Вождей" яны вымялі фікальнай мятлой. Затое зараз самая нізкая пэнсія ў Латвіі складае 38 амэр.даляраў, а ў Эстоніі сярэднемесячны заробак - 170 амэр.даляраў.

А што маем мы? Мінімальны заробак менш за 4 даляры ў месяц і ў дадатак крымінальных "вождей", у руках якіх з-за нашай абыякавасьці па-ранейшаму знаходзіцца ўлада, якую яны скарыстоўваюць пры раскраданьні грамадзкай маёмасьці, "прыхватызацыі".

Гэта замест правядзеньня структурнага рэфармаваньня на прамысловых прадпрыемствах, каб пазьбегнуць абвальнага іх спыненьня й масавага беспрацоўя. Нічога імі ня зроблена й дзеля рэфармаваньня калгасаў і саўгасаў, занятых вытворчасьцю прадуктаў харчаваньня.

У бліжэйшым будучым можна чакаць толькі масавага голаду.

Каб гэтага не здарылася, нам неабходна тэрмінова разьлічыцца з камуністычным крыміналам! Карэнныя перамены ажыцьцявяцца толькі з прыходам да ўлады апазыцыйных сілаў, людзей прыстойных, маральна чыстых - шляхам абраньня на пасаду Прэзідэнта лідара апазыцыі ў Вярхоўным Савеце Зянона Пазьняка. Патрыёты на Беларусі яшчэ не перавяліся: ініцыятыўная група па збору подпісаў выканала сваю місію перад народам - у кароткі тэрмін сабрала вялікую колькасьць подпісаў для вылучэньня сп.З.Пазьняка кандыдатам у Прэзідэнты.

А цяпер, народ, вырашай сам свой лёс: якога жыцьця ты годны !

**М.КАВАЛЁЎ,**
**выбаршчык.**

## ЗАЯВА

### Сакратарыяту Ўправы БНФ

Народны Фронт пасьлядоўна выступаў супраць увядзеньня пасады Прэзідэнта ў Беларусі. Але пакольки прэзідэнцкая кампанія ўсё ж пачалася, Беларускі Народны Фронт як асноўная апазыцыйная сіла краіны вырашыў прыняць у ёй удзел і вылучыў прэтэндэнтам на пасаду Прэзідэнта краіны старшыню БНФ, кіраўніка Апазыцыі ў Вярхоўным Савеце Беларусі Зянона Пазьняка.

Наш прэтэндэнт набраў найбольшую колькасьць подпісаў сярод тых, хто пры зборы подпісаў не выкарыстоўваў дзяржаўны апарат. Гэта сьведчыць пра тое, што Зянон Пазьняк - найбольш рэальны прэтэндэнт на пасаду Прэзідэнта сярод палітыкаў дэмакратычнай арыентацыі.

Народны Фронт выступае за адзінства дэмакратычных сілаў на прэзідэнцкіх выбарах. Мы адзначаем, што тыя дэмакратычныя палітыкі, якія набралі дастатковую колькасьць подпісаў, засьведчылі, што яны - аўтарытэтныя дзеячы, якія маюць сваё неад'емнае месца ў палітычным жыцьці краіны.

Разам з тым магчымае раздробленьне галасоў выбаршчыкаў паміж кандыдатамі дэмакратычнай арыентацыі можа прывесьці да перамогі рэакцыйных, камуністычных, праімпэрскіх сілаў. Таму мы заклікаем тых шаноўных прэтэндэнтаў, якія залічваюць сябе да дэмакратычных, а таксама іхнія каманды, разгледзець магчымасьць зьняцця сваіх кандыдатураў на карысьць кандыдатуры найбольш рэальнага прэтэндэнта. Гэты крок, безумоўна, паспрыяў бы адзінству й будучай перамозе дэмакратычных сілаў Беларусі.

**17 траўня 1994 года.**

## КАМУ НЕАБЫЯКАВЫ ЛЁС БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Набліжаецца дзень выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. 230 тысяч подпісаў, сабраных для вылучэньня кандыдатам на гэтую пасаду Зянона Пазьняка, сьведчаць аб народнай падтрымцы лідара БНФ. Аднак існуе небясьпека фальсіфікацыі вынікаў галасаваньня, якое адбудзецца 23 чэрвеня. У сувязі з гэтым Народны Фронт прыняў рашэньне накіраваць на кожны выбарчы ўчастак сваіх прыхільнікаў у якасьці назіральнікаў.

Мы зьвяртаемся да людзей, якія жадаюць быць назіральнікамі ў дзень выбараў. Прыходзьце па адрасу: вул.Савецкая, 10, пакой 1, або тэлефануйце 45-29-59, 45-41-83 кожны дзень з 19 да 22 гадзін.

**Гарадзенская Рада БНФ.**



## СОЙМ БНФ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

21 траўня 1994 года ў Менску ў штаб-кватэры Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" адбыўся чарговы Сойм БНФ.

Абмяркоўвалася пытаньне аб ходзе выбарчай кампаніі й першапачатковых задачах фронту.

У дакладзе старшыні БНФ Зянона Пазьняка былі асьветлены асноўныя палажэньні Фронта ў перадвыбарчай кампаніі.

Беларускае грамадзтва цяпер знаходзіцца перад праблемай выбара.

*АЛЬБО ПАЗЫЦЫІ ФРОНТУ:*

1. Стварэньне незалежнай, нейтральнай, нацыянальнай дзяржавы;
2. Шлях да сацыяльнай рынкавай эканомікі.
3. Прыярытэты зьнешняй палітыкі: на Ўсходзе - з Расейскай Фэдэрацыяй, а на Захадзе - з Нямеччынай і Польшчай.
4. Павага да правоў чалавека.

*АЛЬБО ПАЗЫЦЫІ ЎРАДУ КЕБІЧА:*

1. Адмова ад сувэрэнітэту Беларусі;
2. Існаваньне таталітарнага рэжыму;
3. Інкарпарацыя Беларусі ў Расейскую імпэрыю.
4. Зьнікненьне беларускай нацыі, культуры, мовы й сымболікі Беларусі.
5. Усеагульнае жабрацтва народа Беларусі.

Былі абмеркаваныя ідэалагічныя прынцыпы выбарчай кампаніі (Ю.Хадыка) і пазыцыя Фронту ў дачыненьні да дэмакратычных партый, эканамічная праграма БНФ (В.Вячорка, У.Заблоцкі). На Сойме прынята рашэньне аб накіраваньні на выбарчыя ўчасткі сваіх прадстаўнікоў для кантроля за выбарамі.

Сойм прыняў рашэньне аб сьвяткаваньні 50 гадавіны вызваленьня Беларусі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў і 70-годдзя з дня нараджэньня народнага пісьменьніка Беларусі Васіля Быкава 19 чэрвеня 1994 года.

Сябра Сойму Станіслаў Гусак (АДПБ) распавёў аб правядзеньні 2-й міжнароднай канфэрэнцыі па будаўніцтву Балта-Чарнаморскага партовага калектара.

**Кастусь ЖЫНЬ, Старшыня гарадзенскай Рады, сябра Сойму БНФ.**

## ЦІ МОЖНА ПАКАХАЦЬ ШУШКЕВІЧА

Яшчэ да пачатку афіцыйнай рэгістрацыі Цэнтрвыбаркамам кандыдатаў на пасаду прэзідэнта, некаторыя з іх ужо пачалі рыхтавацць напрацоўкі да перадвыбарчай кампаніі.

Рэкламнае агенцтва "Старс" пачало распрацоўку некаторых рэкламных матэрыялаў для экс-сьпікера парлямэнта Беларусі Станіслава Шушкевіча. Адзін з праэктаў - плакат з выявай дзяўчыны й подпісам "I love Stanislav".

## НАЦБАНК СУПРАЦЬ АБ'ЯДНАНЬНЯ

Камісія Вярхоўнага Савета па эканамічных рэформах накіравала ў Нацыянальны банк Беларусі запыт з прозьбай экспэртнай ацэнкі вынікаў аб'яднаньня грашовых сістэмаў Беларусі й Расеі. У сваім аналітычным дакумэньце беларускія банкіры выказалі нязгоду практычна з усімі пунктамі дамовы аб аб'яднаньні. У прыватнасьці, яны перакананыя, што абмен грашовых знакаў будзе стратным для рэспублікі, а беларускія банкі ня выйдуць нават у сотню найбольш моцных банкаў аб'яднанай грашовай сістэмы.

**СІМ.**







## УПЕРШЫНЮ Ў ГОРАДНІ СЬВЯТА АХВЯРАПРЫНАШЭНЬНЯ

Упершыню мусульмане Горадні адзначалі сьвята Курбан-байрам, якое на старажытнай мове гучыць, як сьвята ахвярапрынашэньня. На арабскай мове гэтае ж сьвята гучыць інакш, але зьмест яго на працягу стагоддзяў адзін для ўсіх прыхільнікаў Ісламу.

Сёлета, пры садзейнасьці рэспубліканскага ісламскага цэнтру, сябры мясцовага таварыства татарскай культуры й група арабскіх студэнтаў, што навучаюцца ў Гарадзенскім мэдінстытуце, аб'яднаўшыся, падрыхтавалі й адзначылі Курбан-байрам.

Па традыцыі, сьвяткаваньне пачалося праз гадзіну пасьля ўзыхода сонца з чытаньня малітваў і прамоў, прасляўляючых Алаха. Потым было традыцыйнае піцьцё гарбаты з салодкімі стравамі нацыянальнай татарскай кухні. У памяць пра продкаў, што памерлі даўно ці сёлета, кожны мог замовіць муле малітву за сымбалічную плату.

Галоўны зьмест сьвята - ахвярапрынашэньне. Заможныя прыносяць у ахвяру авечку, быка ці вярблюда, галоўнае - каб усе былі добра пад'еўшы. Ахвяраваную жывёлу пры ўсіх рэзалі, рыхтавалі ежу, а што заставалася - аддавалі ўсім прысутным.

Тых, хто прыйшоў на гарадзенскі Курбан-байрам сардэчна прывітаі сірыйскія студэнты, даючы ў прэзэнт мяса быка, якога на золку зарэзалі бліз адной Гарадзенскай вёскі.

Акрамя Горадні, Курбан-байрам у гэты дзень адзначаўся ў Іўе, Клецку, Ляхавічах, Наваградку, Слоніме й Сьмілавічах.

М.ГАРДАНАЎ.

## ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

На Монтэ-Касіна ў 50-ю гадавіну перамогі польскіх жаўнераў над немцамі ў бітве за кляштар бэнедыкдзінаў адбылося набажэнства, якое адпраўляў прымас Польшчы Ю.Глемб. На гэтую ўрачыстасьць у Італію зьехалася звыш 7 тысяч палякаў, галоўным чынам ветэраны.

Прэзідэнт Л.Валэнса, ушаноўваючы памяць усіх удзельнікаў бітвы, сказаў: "Схіляю галаву перад тымі, хто тут пакоіцца, няхай ім пухам будзе гэтая зямля - чужая і заадно свая, бо яна акропленая польскай крывёю".

***

- Польшча мае добрыя кантакты з партнёрамі на Усходзе й можа перадаваць інфармацыю аб пераменах у гэтых краінах Заходнім установам, у тым ліку й Радзе Эўропы, - заявіў прэс-сакратар Міністра замежных спраў Г.Дзімідовіч падчас прэсканфэрэнцыі ў Сэйме.

***

Эканамічны камітэт савета міністраў Польшчы адобрыў і рэкамендаваў праграму у падтрымку польскай усходняй палітыкі: "Асновы палітычнага й гаспадарчага супрацоўніцтва з Усходнімі краінамі і з дзяржавамі Далёкага Усходу", а таксама графік дзеяньняў, зьвязаных з ажыцьцяўленьнем экспэртнай палітыкі Польшчы.

***

Польшча й Расея заключылі ў Варшаве дамову аб выяўленьні і ўзаемным вяртаньні твораў мастацтва, згубленых падчас Другой сусьветнай вайны.

***

Пасол Польшчы ў Расеі С.Цёсак заявіў, што накіроўвае ў генэральную пракуратуру справу аб высьвятленьні пастаўленых яму прэсай закідаў. Паводле апошніх газэтных публікацый нямецкая камісія Я.Гаўкі, якая займаецца дасьледваньнямі дзяржбясьпекі ГДР, мае доказы на тое, што з 1981 г. С.Цёсак, тады сакратар ЦК ПАРП, заахвочваў краіны Варшаўскага дагавору да інтэрвэнцыі ў Польшчу.

***

35-ы кангрэс фэдэрацыі уніі эўрапэйскіх этнічных груп адбыўся ў Гданьску. На ім былі прынятыя дзьве рэзалюцыі: у справе асноўных этнічных правоў у Эўропе і наконт аховы правоў Прыволжскіх немцаў і каўказкіх меншасьцяў; карачаеўцаў і балкарцаў. У кангрэсе прынялі ўдзел арганізацыі з 23 краін Эўропы.

**Па матэрыялах польскага друку.**

## «БУДУЧАЕ АСЬВЕТЫ БЕЛАРУСІ: НАВУКА. ПРАКТЫКА. МЭТАДАЛЁГІЯ»

- пэдагагічны сэмінар пад такой назвай ладзіла 18-20 траўня Гарадзенская філія Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра.

Асноўная задача, якая стаіць перад філіяй БГАКЦ, - распрацоўка канцэпцыі ліцэя (хаця ён існуе ўжо амаль год, але пакуль знаходзіцца ў стадыі станаўленьня). Таму асноўнай мэтай сэмінара было: вызначыць узровень падрыхтаванасьці выкладчыкаў і навучэнцаў, зрабіць напрацоўкі для фарміраваньня стратэгіі й тактыкі асьветы з апераджальным усьведамленьнем. Калі існуючая сярэдняя школа патрабуе ад вучняў аваладваньня ведамі й навыкамі, то ў ліцэі прыкладаюць намаганьні, каб прывучыць дзяцей самастойнасьці мысьленьня (на базе дадзеных настаўнікамі ведаў ствараць праекты), каб яны не баяліся выказваць свае думкі, нават крамольныя й памылковыя.

У таксім рэчышчы й прайшоў сэмінар. М.Гусакоўскі, кіраўнік Часовага навукова-дасьледчага калектыву па распрацоўцы Канцэпцыі Нацыянальнае школы Беларусі, выступіў з дакладам "Канцэпцыі нацыянальнае школы Беларусі", С.Новікава, загадчык навуковай Лябараторыі Іерархічных Многаўзроўневых Сістэм (Менск), - з дакладам "Азначэньне асьветы ў Тэорыі іерархічных многаўзроўневых сістэм". Запрошаны былі таксама яшчэ два навукоўцы з Масквы, якія маюць уласнае бачаньне асьветы будучага, але яны ня здолелі па розных прычынах прыехаць.

У рамках сэмінара былі праведзены інтэграваныя ўрокі (у 8 класе - пад дэвізам: "Называем рэчы сваімі імёнамі", у 9-ым - "Зямля + Веды = Сьветапогляд"). На "Тегга inkognita Гарадзеншчыны", напрыклад, вучні з дапамогай выкладчыкаў аналізавалі звычайную крэйду з геаграфічнага, біялагічнага й лінгвістычнага асьпектаў, на "Ваўкалакасьці. Чарадзействе" на падставе літаратурных твораў і гістарычных фактаў высьвятлялі адносіны хрысьціян і паганцаў да ваўкалакаў і пераўтварэньняў ўвогуле.

Сумесна з Гарадзенскім абласным фондам культуры ў Тэатры лялек была праведзена прэзэнтацыя кнігі А.Госьцева й В.Шведа "Кронон. Летопись города над Неманом. 1116-1990."

Напрыканцы сэмінара праводзіўся "круглы стол", на якім прысутныя выказалі свае думкі наконт таго, што адбылося. Вось некаторыя з іх.

**А.Госьцеў, мэтадыст філіі БГАКЦ:** "Напачатку падалося, што ўзяліся за няўздымны груз, бо сканчаецца навучальны год. Але зараз, лічу, сэмінар атрымаўся. Галоўны вынік - мы шмат далі дзецям і можам яшчэ больш."

**Л.Пархоц, настаўніца сусьветнай літаратуры Беларускага гуманітарнага ліцэя:** "Я зразумела: нашы дзеці - асобы, у іх вялікія задаткі. Сэмінар толькі падкрэсьліў гэта."

**С.Новікава:** "Я ведала, што выкладаньне ў ліцэі спалучаецца з фарміраваньнем у дзяцей нацыянальнай сьвядомасьці. На сэмінары зьявілася выключная магчымасьць убачыць гэта."

На працягу сэмінара рабілася відэаздымка, таму выпрашана падрыхтаваць мэтадычныя рэкамендацыі з мэтай распаўсюджваньня вопыту, бо ён сапраўды ўнікальны.

Да ўдзелу ў сэмінары запрашаліся мэтадысты аддзелаў адукацыі розных узроўняў, настаўнікі школ Горадні. Толькі тры выкладчыкі адгукнуліся, і не пашкадавалі, сказаўшы, што ўбачылі шмат цікавага. І хаця большасьць з гэтага прымяніць на практыцы ў сярэдняй школе не ўяўляецца магчымым, яны шчосьці паспрабуюць выкарыстаць пры правядзеньні заняткаў.

А.ДУК.

## РЭТРАСПЕКТЫВА



На здымку: так выглядала беларуская татарка ў нацыянальным убраньні — жыхарка мястэчка Мір напачатку XX стагоддзя.

## КРОНАН

На мінулым тыдні ў Гарадзенскім тэатры лялек адбылася прэзэнтацыя новай кнігі аб гісторыі Горадні - "Кронан". Так некалі ў старажытнасьці называўся Нёман. Яе аўтары, мясцовы краязнаўца А.Госьцеў і тутэйшы гісторык В.Швед, прарабілі велізарную працу, каб стварыць унівэрсальны дапаможнік, своеасаблівы компас для далейшага вывучэньня й асэнсаваньня гісторыі Беларусі ў цэлым і ў першую чаргу - гісторыі Горадні.

Кніга складаецца з дзьвюх частак, якія арганічна ўзаемазьвязаныя паміж сабой: непасрэдна з летапісу-храноґрафу горада, дзе ўсе даты падаюцца па сучасным часавымярэньні, і які геаграфічна лакалізуе выклад падзей, і іменнага слоўніка-паказальніка, які ўяўляе сабою больш-менш падрабязныя біяграфічныя зьвесткі пра ўсіх тых асобаў, якія ўзгадваюцца ў першай частцы.

У выступленьні перад сабраўшыміся аўтары са шкадаваньнем зьвярнулі ўвагу на тое, што кніга выйшла на расейскай мове, а не на роднай, патлумачылі прычыны, а таксама сказалі, што маецца намер падрыхтаваць у хуткім часе беларускамоўнае палепшанае з працягам да 1994 года выданьне "Кронана", а таксама скарочаны беларуска-польска-француска-ангельскі яго варыянт.

А ўвогуле кніга вельмі сьціплая, выдадзеная на дрэннай паперы й не па зьнешняму выгляду ніяк не параўнаць з дэтэктывамі, якія ляжаць на паліцах крамаў. Вядома, яна аб гісторыі Беларусі, для якой, на жаль, зараз цяжка знайсьці грошы й зрабіць прывабнае выданьне.

Дарэчы, гэтае выданьне зьдзейсьнена з дапамогай Гарадзенскага абласнога й Гарадзенскага гарадзкога выканкамаў Саветаў народных дэпутатаў і прысьвечанае сьветлай памяці Міхася Ткачова.

(ір).

## МУЗЭЙ ЧАСОЎ А.ТЫЗЭНГАЎЗА

На мінулым тыдні, якраз у Міжнародны дзень музэяў, у Горадні адчыніўся Дом рамесьваў. Ён месьціцца ў маленькім доміку, збудаваным яшчэ ў часы Антонія Тызэнгаўза для майстроў рамесьнікаў, якіх стараста горада запрашаў з розных краінаў Эўропы: Нямеччыны, Францыі, Швэйцарыі, Галяндыі, й знаходзіцца на вуліцы Э.Ажэшкі, былой Раскошы.

Экспазыцыя музэя знаёміць наведвальнікаў з гісторыяй развіцьця прамысловасьці на Гарадзеншчыне ў XVIII ст. Адна з залаў музэя цалкам прысьвечаная быту рамесьніка-гараджаніна, дзе ўвасобленыя ня толькі інтэр'еры таго часу, але й цікавыя экспанаты, частка якіх знойдзена падчас раскопак у Горадні, а некаторыя зробленыя на заказ сучаснымі майстрамі па захаваўшыхся матэрыялах XVIII ст.

Ёсьць магчымасьць пазнаёміцца і з сучаснымі рамёствамі, дарэчы, гэтыя калекцыі ўвесь час будуць абнаўляцца. Зараз выстаўленыя вырабы з саломкі - работы ня толькі вядомых, а й маладых майстроў. Акрамя гэтага, у вестыбюлі працуе выстаўка-продаж сувэніраў, якія можна набыць на памяць аб нашым горадзе.

(ав).

СУМЕЖЖА

# ГАРАДЫ ПАНЯМОНЬНЯ

Летапісцы і іншыя сярэдневяковыя аўтары ня шмат расказваюць аб гарадах Панямоньня. Зьвесткі пра іх зьявіліся значна пазьней, чым першыя ўспаміны пра Полацак, Тураў, Берасьце і іншыя гарады, заснаваныя на беларускай зямлі.

Іпацьеўскі летапіс паведамляе пра існаваньне ў Панямоньні Горадні, Наваградка, Ваўкавыска, Услоніма, Турэйска. Яшчэ некалькі гарадоў згадваецца ў "Сьпісе рускіх гарадоў," які быў напісаны ў канцы XIV ст. Гэта Гальшаны, Ліда, Крэва, а таксама (на думку вядомага архэолага В.В.Сядова) Астрэя й Вевярэск. Аб старажытным горадзе Мсьціславе, які ў XVII-XIII ст.ст. дзяліў лес Горадні й Наваградка, пісаў храніст XVI ст. Мацей Стрыйкоўскі.

Калі ж узьніклі гэтыя гарады й што ўяўлялі сабой да часу ўпамінаньня ў летапісе? І наогул, ці былі яшчэ ў Панямоньні гарады? У летапісах гаворыцца пра тое, што войскі Данілы Галіцкага ў сярэдзіне XIII ст. "поидоста к Новогородку и паимаша грады многы и возвратимася в домы свои". На гэтыя пытаньні старажытныя крыніцы адказу не даюць. Тут нам на дапамогу прыходзіць археалогія.

У сувязі з гэтым пытаньнем нашу ўвагу прыцягнула гарадзішча (старажытнае ўмацаваньне паселішча), якое знаходзіцца ў трох кілямэтрах ад мястэчка Астрына каля вёскі Кульбачына. Разьмешчана яно на беразе р. Астрынкі й належыць да тыпу гарадзішчаў, умацаваньні якіх не залежаць ад рэльефу мясцовасьці. Падобныя гарадзішчы будаваліся ўжо ў X-XI ст.ст. У пляне помнік мае няправільна-акруглыя абрысы, яго памеры - 70х56 м. Ён акальцаваны валам, які мае вышыню да 3,5 м, з напольнага боку прасочваюцца сьляды Ірва. Менавіта той факт, што гарадзішча знаходзіцца на беразе р.Астрынкі, якая ў старажытныя часы магла насіць назву Астрэя, даў магчымасьць маскоўскаму археолагу В.В.Сядову лічыць гэты помнік раньнефеадальным горадам Астрэя.

У 1990-1992 г.г. на гарадзішчы праводзіліся археалагічныя дасьледваньні. Удзел у раскопках бралі школьнікі Астрынскай сярэдняй школы, студэнты Гарадзенскага дзяржунівэрсітэта, а таксама моладзь з Нямеччыны, Бэльгіі, Францыі, Англіі, Даніі, ЗША, Канады, Нарвэгіі. Усе яны працавалі ў інтэрнацыянальным летніку, які быў створаны на базе археалагічнай экспэдыцыі АН Беларусі.

Аб інтэнсіўным жыцьці на гарадзішчы сьведчаць шматлікія знаходкі. Як звычайна на падобных пасяленьнях, тут знойдзена вялікая колькасьць рэшткаў ганчарнага посуду: збаноў, гаршкоў, місак. Пераважная колькасьць іх з гарызантальнымі й хвалістымі лініямі арнамэнту. На некалькіх донцах знойдзены клеймы: крыж у крузе.

Кэраміцы з гарадзішча Кульбачына вядомы аналагі з раскопак паселішчаў цэнтральнай і паўднёвай Беларусі, Валыні, Мазовіі, якія датуюцца кан. X-XIII ст.ст. Сярод бытавых рэчаў знойдзены гліняныя праселкі (выкарыстоўваліся пры прадзеньні), касьцяныя вырабы (качадык для пляценьня, праколкі), жалезныя нажы, шыла, рыбалоўны кручок, тачыльныя камяні, ручныя зернацёркі, рэшткі каменных жорнаў. Сярод упрыгожваньняў - бронзавая падкowападобная фібула з сьпіралевіднымі канцамі, мэдная пранізка - сьпіралька, шкляныя бранзалеты й пацеркі.

Асобую катэгорыю знаходак складае зброя. Да зброі блізкага бою адносяцца два аканечнікі дзідаў. Абодва адносяцца да ланцэтавідных утульчатых. Дадзены тып распаўсюджаны ў Скандынавіі ў часы вікінгаў, адтуль дайшоў да Паўночна-Заходніх земляў і Прыбалтыкі. Самы блізкі аналаг на тэрыторыі Усходняй Эўропы вядомы з раскопак курганных старажытнасьцяў у Гнездаве (пад Смаленскам). Шмат аналагічных аканечнікаў знойдзена ў могільніку Лумстары ў Фінляндыі, дзе былі пахаваныя ў X ст. варагі. Да мэтальнай зброі адносіцца аканечнік суліцы (дроціка), які быў таксама знойдзены падчас раскопак.

Зброя далёкага бою прадстаўлена 34 аканечнікамі стрэлаў розных тыпаў. Сярод іх зьвяртае на сябе ўвагу значная колькасьць ланцэтавідных аканечнікаў (13 экз.) Менавіта гэты тып аканечнікаў стрэлаў складае пераважную большасьць у калчанах ваяроў, пахаваных у Бірне (Швэцыя) і зьяўляецца частай знаходкай у дружынных пахавальнях Шэставіцкіх, Гнездаўскіх, Уладзімірскіх курганаў.

У Панямоньні ланцэтавідныя аканечнікі стрэлаў знойдзены толькі ў Ваўкавыску. У калекцыі кульбачынскіх аканечнікаў ёсьць ромбавідныя ўтульчатыя (2 экз.). Такія аканечнікі мелі шырокую дату бытаваньня - ад VII да XIV ст.ст. Па заключэньню А.Ф.Мядзьведзева яны не былі характэрнымі для ўсходніх славянаў, зрэдку сустракаліся на межах разсяленьня славян і шырока выкарыстоўваліся фінаўгорскімі плямёнамі.

Цікава адзначыць, што 20 аканечнікаў было знойдзена разам у адным месцы, літаральна ў



зьвязцы. Па ўсёй бачнасьці, яны знаходзіліся ў калчане, які быў згублены. Калчаны звычайна былі скураныя ці з берасту, а культурны слой гарадзішча не захоўвае рэчы з арганікі.

Да засьцерагальнага ўзбраеньня адносіцца мэталічная пласьціна, падобная па форме да пласьцінкі ад лускавага панцыра. Аналагічныя пласьціны вядомыя з раскопак Ноўгарада, Берасьця, Новагародка і іншых гарадоў. Да гэтай катэгорыі ўзбраеньня адносіцца бляха ад тарчы. Рыштунак вершніка прадстаўлены шпорай з калёсікамі, якая датуецца XIII ст. Аналіз археалагічнага матэрыялу паказвае, што гарадзішча ўзьнікла ў канцы X-пачатку XI ст.ст. у ходзе калянізацыі Панямоньня славянскім насельніцтвам. З самага пачатку гэта была крэпасьць - апорны пункт калянізацыі правабярэжжа Нёмана. З разьвіцьцём фэадальных адносін з XIIст. пасяленьне набывае рысы феадальнай сядзібы-замка. Ну а як жа назва? Ці можна лічыць гэтае гарадзішча рэшткамі летапіснага горада Астрэя? Мы ўжо ўзгадвалі, што помнік знаходзіцца на рацэ, якая называецца цяпер Астрынкай, а ў трох кілямэтрах ад гарадзішча - Астрына. "Магчыма, у старажытнасьці рака называлася Астрэя. У такім выпадку назва горада была вытвораная ад гідраніміі", - лічыў В.В.Сядоў.

Аднак такое меркаваньне магло быць справядлівым да таго часу, пакуль экспэдыцыя Эрмітажу не пачала раскопкі пасяленьня на возеры Астрэя Навасакольніцкага раёна Пскоўскай вобласьці. У выніку раскопак выяўлены матэрыялы старажытнарускага й больш позьняга пэрыяду. Значыцца, трэба адмовіцца ад лакалізацыі Астрэі ў Панямоньні. Аднак цікавасьць да гарадзішча Кульбачына ад гэтага ні ў якім разе не зьмяншаецца.

Наадварот, вынікі археалагічных дасьледваньняў праліваюць сьвятло не некаторыя пытаньні, напрыклад, на месцы Панямоньня ў сістэме міжнародных кантактаў у эпоху сярэдневечча.

Вядома, што зьяўленьне рэчаў скандынаўскага паходжаньня ва Усходняй Эўропе зьвязваецца з існаваньнем тут у X-XI ст.ст. шляху "з вараг у грэкі". Па ўсёй бачнасьці, Нёманска-Дняпроўскі водны шлях мог скласьці сур'ёзную канкурэнцыю шляху "з вараг у грэкі" ці быў дастаткова самастойным у сувязях Скандынавіі з басэйнам Прычарнамор'я. На гэта паказваюць прадметы скандынаўскага паходжаньня, якія былі знойдзены ў Панямоньні падчас археалагічных дасьледваньняў у розныя гады.

Да іх адносяцца шлем X-XI ст.ст. з культурнага слою Слоніма, меч тыпу 5 з наваколіц Горадні, узгаданыя наканечнікі з Кульбачына. У Ваўкавыску знойдзены ажурныя падвескі з выявай антрапаморфных істот, шпора з пятлёй. Верагодна, з дружыннага пахаваньня другой паловы X ст. паходзіць наканечнік дзіды, упрыгожаны срэбранай насечкай. З Нёмана ў Днепр можна было выйсьці двума шляхамі: па леваму прытоку Рось, далей праз волак Ясельды, Прыпяці. Дарэчы, этымалёгія Ваўкавыска зьвязваецца некаторымі вучонымі з існаваньнем тут волака (Волакавыск, Высокі волак). Другі шлях ляжаў па праваму прытоку Бярэзіны, потым волак у Сьвіслач, затым Бярэзіна (толькі ўжо Дняпроўская) і далей Днепр. Існаваньне важных апорных пунктаў Крэва, Лоска, Палачаны, Менску, Сьвіслачы на гэтым шляху ў X-XI ст.ст. падкрэсьлівае яго важнасьць.

Адсюль паходзяць і два буйныя скарбы арабскіх дырхэмаў (827 экз. і 2446 экз.), знойдзеных каля вёскі Ракаўцы (непадалёку ад Крэва). Некаторыя дасьледчыкі лічаць, што нёманска-бярэзінска-дняпроўскі шлях у сувязях Кіева з Прыбалтыкай і Скандынавіяй быў больш старажытны, чым шлях "з вараг у грэкі".

Апошія археалагічныя раскопкі на панямонскіх помніках падмацоўваюць гэтыя меркаваньні і ставяць новыя пытаньні, адказы на якія зьвязаныя з далейшай працай археолагаў. Арганізацыя правядзеньня археалагічных работ патрабуюць вялікіх выдаткаў. Мы выказваем шчырую падзяку фонду "Бацькаўшчына", вабласному аддзяленьню Фонда культуры, Саюзу палякаў Беларусі, Гарадзенскаму Дзяржунівэрсітэту, ВА "Азот"(у першую чаргу, сп. Шчасновічу), кіраўніцтву калгаса "Савецкая Беларусь" Шчучынскага раёна й выканкаму Астрынскага пасялковага Савета за фундацыю й дапамогу ў правядзеньні археалагічных дасьледваньняў на гарадзішчы Кульбачына й спадзяёмся на далейшае супрацоўніцтва на карысьць нашай гісторыі.

**Сяржук ПІВАВАРЧЫК, археолаг.**

**НА ЗДЫМКУ: прадметы зброі з раскопак гарадзішча Кульбачына.**

**Фатаграфаваў аўтар.**

# НОВЫ ПАСОЛ УБАЧЫЦЬ УЖО ІНШУЮ ЛЕТУВУ

**На 21 траўня быў запланаваны ад'езд надзвычайнага й паўнамоцнага пасла ЗША Дэрыла Джонсана пасьля трох гадоў працы ў Вільні. Ён прыняў у сябе галоўнага рэдактара й журналістаў "Летувос ритас" і пагадзіўся адказаць на іх пытаньні.**

**- Як у афіцыйных колах Амэрыкі ставяцца да Летувы?**

- Абагульняць складана. Ёсьць моманты, якія робяць работу тут ўнікальнай і цікавай.

Летува была застрэльшчыкам у барацьбе за незалежнасьць - сваю й суседзяў, гэта цікава ў гістарычным плане. Тое, што ў ЗША ёсьць шматколькасная летувіская абшчына, таксама робіць нашыя адносіны ўнікальнымі й цікавымі. Урэшце, Летува, краіна заходняй культуры, зноў спрабуе пракласьці шлях у Эўропу.

Акрамя таго, думаю, што новы пасол убачыць краіну іншай, чым яна была тры гады таму, калі я прыехаў сюды. Летува па-ранейшаму ўяўляе інтарэс у многіх адносінах, у апошні час становішча тут стабілізавалася. Так, нядаўна падпісана летувіска-польская дамова, якая завяршыла працэс нармалізацыі адносін з суседзямі. Разумею, што ня вырашана яшчэ шмат праблемаў з Беларусьсю, але ў асноўным адносіны з суседзямі ў Летувы нармальныя. Што датычыцца Польшчы, то праз яе для вас адкрываецца натуральны шлях на Захад.

**- Якой вы ўбачылі Летуву, калі прыехалі ў Вільню ў верасьні 1991 года?**

- Памятаю, калі ўпершыню я йшоў у Вярхоўны Савет, вакол яшчэ стаялі барыкады, быў калючы дрот, вакол будынка - мяхі з пяском. Праўда, людзі былі поўныя энтузіязму, падтрымлівалі незалежнасьць і ўсё новае, але прысутнічала й пачуцьцё страху. Калі я наведаў Паўночны гарадок, зразумеў, што вайсковая прысутнасьць - рэчаіснасьць. Абсталяваньне ля тэлевежы яшчэ захавала сьляды падзей васьмімесячнай даўніны. На мой погляд, атмасфэра таго часу адрозьнівалася ад існуючай. Не хачу сказаць, што ў Летуве ўжо няма праблемаў, але зараз няма пагрозы дзяржаўнасьці.

**- Якія сувэніры вы адвязеце з сабой у Амэрыку на памяць аб Летуве?**

- Адзін з іх - кавалак калючага дроту, які б нагадваў аб тых часах, калі я прыехаў у Летуву. У нас шмат фотаздымкаў, у тым ліку зробленых у садзе, ля рэзідэнцыі. Там ёсьць кветкі, якія мы вырасьцілі з насеньня, прывезенага з сада Тома Джэфэрсана ў ЗША.

Можна сказаць, што мы прывезьлі ў Летуву частку сваёй аграрнай гісторыі.

Калі ўпершыню пабываў у гасьцях у В.Ландзбэргіса, ён спрэзэнтаваў мне касэту з запісамі музыкі М.-К.Чурлёніса ў яго ўласным выкананьні. Мы таксама набылі шмат карцін, заказалі вялікі габелен на сьцяну ў наш дом. Усё гэта будзе нагадваць аб Летуве.

**- Ці зьмяніліся за час вашай работы ў Летуве адносіны паміж нашымі краінамі?**

- Лічу, што значна зьмяніліся. Калі я пачынаў работу, яны несьлі ў асноўным тэарэтычны, а не практычны характар. Зразумела, калі ўлічыць, што ЗША ніколі не прызнавалі ўключэньне Летувы ў склад СССР, то ў гэтых адносінах быў важкі палітычны аспэкт, але адсутнічала яго рэальнае напаўненьне. Зараз - інакш: ажыцьцяўляюцца праграмы абмена, у якіх прымаюць удзел акадэмічныя інстытуты, вядомыя грамадзкія дзеячы, установы культуры. Існуе праграма дапамогі, якой яшчэ тры гады таму не было. Яна ахоплівае такія сфэры, як банкаўская справа, энэргэтыка, сельская гаспадарка, ахова акаляючага асяроддзя, і ахоплівае нашы магчымасьці з патрэбамі Летувы.

Спадзяюся, што ў бліжэйшыя гады заўважна пашырыцца наша супрацоўніцтва ў вобласьці бясьпекі, умацуюцца кантакты з вайсковым кіраўніцтвам ЗША й НАТА.

У адносінах паміж ЗША й Летувой стала больш практычнага зьместу. З другога боку, хацелася б адзначыць, што па меры пасьпяховага руху Летувы па шляху рэформаў патрэба ў нашай дапамозе будзе зьмяншацца. Праграмы дапамогі такім краінам Усходняй Эўропы, як Венгрыя, Польшча, Чэхія, Эстонія, мы ўжо паступова згортваем.

**- Што вы думаеце пра замежныя інвестыцыі ў Летуве?**

- Аб'ёмы інвестыцый значна меншыя, чым хацелася б, але за апошнія гады яны павялічыліся. Я задаволены тым, што зараз нашыя інвестыцыі тут самыя значныя, створана каля 200 летувіска-амэрыканскіх прадпрыемстваў, у тым ліку 15 даволі буйных. У Летуве дзейнічае прадстаўніцтва гандлёвай палаты ЗША, якое дапамагае супрацоўніцтву прадпрымальнікаў нашых краін.

Думаю, памер інвестыцый вызначаюць некалькі фактараў. Перш за ўсё ў краіне павінна быць прававая інфраструктура. Летува ў гэтай вобласьці зрабіла значныя крокі, праца працягваецца, мы таксама аказваем садзейнічаньне.

Другі фактар зьвязаны з банкаўскай справай і фінансамі. Увядзеньне літа й яго прывязка да даляра ЗША павялічыла давер да вашай валюты.

Трэці фактар можна было б назваць бюракратычным. На мой погляд, у Летувы тут яшчэ ёсьць праблемы - калі сутыкаемся з вырашэньнем якасьці пытаньня на практыцы, нярэдка можна пачуць у розных інстанцыях розныя адказы на адно й тое ж пытаньне. Неабходна гарантаваць нязьменнасьць правілаў і патрабаваньняў.

Трэба нагадаць, што большасьць прадпрымальнікаў едуць у Летуву, каб зарабіць грошы. Яны могуць накіравацца й у Паўднёвую Карэю ці Аргэнтыну. Калі вы жадаеце, каб яны ехалі ў Летуву, - трэба іх прывабіць. Дарэчы, я заўважыў, што з савецкіх часоў у людзях захаваўся недавер да тых, у каго ёсьць грошы. А для разьвіцьця прадпрымальніцтва неабходна атмасфэра павагі да бізнэсу.

**- У Летуве вы працавалі тры гады. Што б вы параілі новаму паслу?**

- Перш за ўсё, я б яму сказаў: "Выходзь з габінэта як мага раней, калі дазваляе работа." Я маю на ўвазе неабходнасьць сустрэч з людзьмі, наведваньня іншых гарадоў, магчымасьць адчуць атмасфэру краіны.

Другая парада, - устрымайся ад скарасьпелых высноў, па меншай меры ў першы месяц работы. Каб сфарміраваць ўласную думку, трэба быць добра інфармаваным.

Трэцяя парада агульнага характару: важна, каб пасол ведаў, якія крокі ў адносінах да Летувы робіць урад ЗША. Гэта датычыцца справаў пасольства, зьмяненьняў, дапамогі й іншае.

Калі новы пасол выкарыстае мае парады, думаю, працы яму на тры гады дакладна хопіць.

**Друкуецца ў скарачэньні.**

# «ХАЧУ ПАМЕРЦІ БЕЛАРУСАМ»

Ад горада Бельск-Падляскі калёну вязьняў пагналі пехатой на поўнач. Уладзімір Германовіч ішоў у адным шэрагу са сваімі сябрукамі, Хведарам з Шацілак і Пятрусём, які з-пад Лельчыцаў. Хлапцы пасябравалі яшчэ месяц назад, калі працавалі на ўзьвядзеньні нямецкай лініі абароны бліз Пінска. Уладзіміра, як і некаторых іншых вясковых хлапцоў, немцы кожную раніцу забіралі капаць акопы на поўдзень ад Пінска.Тут ужо працавалі палонныя, якіх немцы называлі партызанамі. Размаўляць ці даваць ім ежу катэгарычна забаранялася. Уладзімір аслухаўся загаду й даў аднаму палоннаму яйка. Немалады немец заўважыў гэта й згадаў Уладзіміру застацца з палоннымі партызанамі. Аднавяскоўцы расказалі бацькам пра здарэньне. Колькі не прасілі бацькі немца вярнуць ім сына, той упарта стаяў на сваім.

Калі акопы былі гатовыя, вясковых хлапцоў вярнулі дамоў, а Уладзіміра разам з палоннымі пагналі аж да Берасьця. А потым і ўвогуле загналі непадалёк Бельск-Падляскага за калючы дрот. Яшчэ ў лагеры ўсе трое вырашылі, што пакуль яны на сваёй зямлі, неабходна бегчы, бо на чужыне гэта зрабіць будзе цяжка. Вырашылі ўцякаць тады, калі калёна будзе ісьці лесам. Але задзейсьніць задуманае не атрымалася. Калі калёна падыходзіла да лесу, яе сьціскалі ў больш густыя шэрагі, каб канвойным было лацьвей назіраць. Уладзімір вырашыў паспрабаваць ўцячы полем. Аб сваім рашэньні ён паведаміў сябрам. Хведар пагадзіўся, а Пятрусь вагаўся. Калі падыйшлі да поля, на якім каласавалася жыта, Уладзімір, які крочыў скраю, падаў сябрам знак падрыхтавацца. Выкарыстаўшы зручны момант, ён скочыў у жыта й пабег. Дарэмна ён напружваў слых, спрабуючы пачуць тупат ног сяброў ці пагоні. Ні першага, ні другога ён так і не пачуў. Прабегшы вёрст пятнаццаць, Уладзімір трапіў ў балота. Пакруціўся там з гадзіну й зразумеў, што заблукаў. Ужо сьцямнела, калі стомлены ўцякач выйшаў на лугавіну, якая амаль ўся была застаўлена страпцамі сена. Разгробшы бок страпца, Уладзімір закутаўся ў сена й заснуў. Раніцой яго абудзіла людзкая гамана. Прыслухаўшыся, ён зразумеў, што людзі размаўляюць па-польску, і вырашыў болей не хавацца.

Уладзіміру ўдалося пераканаць аднаго з палякаў, што ён свой і родам з-пад Пінску. Пачуўшы родную гаману, польскія сяляне пацяплелі, прапанавалі застацца ля страпцоў да вечара. На зьмярканьні самы старэйшы прыехаў на фурманцы й забраў Уладзіміра. Новай схованкай нядаўняга ўцекача стала цяпер гумно. Гаспадар прынасіў есьці, часам распытваў свайго "мышканца" пра тое, за што трапіў ён у нямецкую няволю. Уладзімір ахвотна адказваў на ўсе пытаньні, задаваў свае. Так ён даведаўся, што трапіў да польскага арэндатара, а месца, дзе ён арэндуе маёнтак, знаходзіцца бліз горада Цеханаў.

Час ішоў, і ніхто не ведаў, што ў польскага арэндатара хаваецца чужы чалавек. Калі дасьпела збажына, гаспадар сказаў Уладзіміру, што зьявіўся выдатны момант, каб ён пакінуў сваё сховішча. Уладзімір спытаў, як. Гаспадар растлумачыў, што настаў час зьбіраць ураджай, і што ён мае дазвол мець парабка. Таму тым, хто будзе цікавіцца, ён адкажа, што наняў сабе работніка ў Цеханаве, бо працы шмат. А парабак будзе працаваць ня толькі ў ягоным маёнтку, але й дапаможа хвораму брату гаспадара.

Грокат гармат гучаў ўсё бліжэй і бліжэй. Уладзімір меў спадзеўку, што ўсё добра скончыцца, што рускія войскі возьмуць Цеханаў, і ён зможа вярнуцца на Палесьсе. Але гэтага не адбылося. Немцы выдалі загад: усім маладым людзям не нямецкага паходжаньня прыйсьці ў гміну. Атрымаў такую паштоўку й гаспадар. Замест сябе да гміны ён паслаў Уладзіміра.

Восеньскай раніцой да гміны прыйшло шмат людзей. Хутка прыехала нямецкая каманда і ўзялася за працу. Больш маладых паставілі ў асобны шыхт, а старэйшых адпусьцілі дамоў. Праз якую гадзіну моладзі загадалі рухацца. Наперадзе і ў хвасьце калёны ішлі нямецкія аўтаматчыкі з аўчаркамі. У гэтай калёне ішоў і Уладзімір.

Праз чатыры дні калёну прыгналі да Кёнінгсбэргу. Адтуль на пароме пераправілі ў крэпасьць Пілаў, дзе ім знайшлі работу ў порце.

На работу ў порт вадзілі толькі пад аховай. Працавалі больш ноччу, каб авіяцыя не разбамбавала караблі, якія прыходзілі з мора з папаўненьнем і харчаваньнем для Кёнінгсбэргу. Удзень рабочых трымалі за дротам. Уладзімір бачыў, як днём немцы грузілі на карабель параненых, жанчын, дзяцей, старых. Яго зьдзіўляла, чаму ўсе яны з малымі клуначкамі. Спытаў неяк пра гэта немца, які крыху ведаў польскую мову. Той патлумачыў, што на караблях не хапае месца. Таму не дазваляецца везьці звыш пяці кіляў.

Караблі прыходзілі штоноч. Чаго толькі яны не прывозілі ў порт: і галандзкія сыры, і цыгарэты, і какаву, і сухое малако, і кансэрвы. Нявольнікі часам разважалі, што немцам гэтага хопіць на некалькі год абароны. Але неяк ноччу, калі ўсе працы фактычна былі скончаныя, на Пілаў зрабіла налёт амэрыканская авіяцыя. Тое, што вязьні месяцамі назапашвалі ў нямецкія склады, згарэла ў адну ноч.

Калі пачаўся наступ савецкага войска на Кёнінгсбэрг, вязьняў болей не вадзілі на працу. Побач лагера разьмясьцілі перасоўны чыгуначны шпіталь. Каб ён мог манэўраваць, ў лесе зрабілі вузкую прасеку й паклалі рэйкі. Зьверху новую чыгунку замаскавалі зялёнай сеткай. Параненых праз затоку прывозілі на барках. Іх было столькі, што ў перасоўным шпіталі не хапала месца. Параненых разьмяркоўвалі нават на ношах у бараках вязьняў, сагнаўшы бедалаг ў адзін самы вялікі зьбіты з дошак хлеў. З гэтага часу вязьняў нават перасталі харчаваць; і каб выжыць, яны прасілі немцаў застрэліць хоць выбракаванага каня. Калі той згаджаўся, у палонных было сьвята. Калі-нікалі палонных пускалі разграбаць пажарышча, дзе яны выкопвалі абгарэлыя кускі хлеба, сыру, галет.

Так працягвалася дзён дзесяць. Аднойчы раніцой, абудзіўшыся, палонныя заўважылі, што шпіталь зьнік разам з усімі параненымі. На ўвесь порт засталася адна нямецкая бронемашына, якая езьдзіла з аднаго месца ў другое й страляла ў бок мора. На наступны дзень гэтага перасоўная пункту абароны ня стала. Больш дасьведчаныя згадвалі, што і шпіталь, і бронемашыну немцы зьнялі на падводныя лодкі. Цішыня палохала палонных, яны баяліся выходзіць за межы сваёй няволі. Прыкладна апоўдні на тэрыторыі лагеру зьявіліся савецкія разьведчыкі. Яны распыталі палонных пра абстаноўку і адышлі. Радасьць вызваленьня прыдала ўсім сьмеласьці. Асабліва радаваліся расейскія палонныя. Згадвалі, што бацька Сталін заступіцца за іх, і што яны яшчэ пакажуць немцам за зьдзекі.

Іх радасьці не было канца. Каб неяк адзначыць перамогу вялікага правадыра Сталіна, больш здаровыя з іх зьбегалі ў порт і адтуль прыкацілі бочку сьпірту-дэнатурату. Пілі толькі рускія, а потым у іх распачалі балець страўнікі. Да раніцы многія ня вытрывалі й сканалі.

Толькі на другія суткі ў лагер прыехалі мэдыкі, агледзелі здаровых і памёршых. Затым падагналі фурманку, і тых, хто ня мог рухацца, перавезьлі на паром. Хто мог ісьці пехатой, цягнуліся за фурманкамі.

Падтрымаўшы палонных у нейкім палявым шпіталі бліз Кёнінгсбэргу, больш моцных, у тым ліку і Уладзіміра, на цягніку адвезьлі ў Летуву. Разьмясьцілі ў старых кашарах бліз Алітуса. Пачалі выклікаць на допыт. Выклікалі і Уладзіміра. Распыталі пра Радзіму, бацькоў, пра тое, як ён трапіў да немцаў.

Так прайшло некалькі дзён. Аднойчы каля Уладзіміра прысеў нейкі, як яму падалося, дзіўны чалавек. Ён скардзіўся на лёс, што яго абавязкова пасадзяць у турму за нібыта нейкую дапамогу немцам. Дзівак прасіў Уладзіміра заступіцца за яго, дапамагчы.

Уладзімір шчыра падтрымаў чалавека, сказаў, што заступіцца. Але баяцца ня трэба, бо ён таксама капаў акопы для немцаў і не баіцца гэтага.

Раніцой зноўку адбыўся допыт. Уладзіміру сьледчыя нагадалі, што ён не сказаў ім праўду. Калі Уладзімір запытаў у сьледчага, пра якую праўду той яго пытае, сьледчы ўсьміхнуўся й папрасіў распавесьці, дзе ён капаў немцам акопы. Уладзіміра як токам сьцеганула, калі ён успомніў пра ўчарашняга дзівака.

Прысуд быў хуткі: восем год лагераў для нямецка-фашысцкіх прысьпешнікаў. Па этапу яго і яшчэ некалькі соцень асуджаных прагналі ў Комі АССР. Уладзімір ведаў нямецкія лагеры, але гэты, сталінскі, нічым іх не нагадваў. Проста людзей выкінулі ў лес, які папярэдне абнесьлі дротам.

Хутка лагер пачаў папаўняцца. Сюды прывозілі ці гналі па этапу палонных нямецкіх жаўнераў, былых уласаўцаў і паліцыянтаў. Яны, як і іхнія папярэднікі, будавалі з яловых лапак шалашы й разьмяшчаліся ў іх. Кожны дзень усіх адным гуртам ахова гнала на лесапавал. Для кожнага асуджанага была норма выпрацоўкі. Харчаваньне было вельмі дрэннае. Раніцой пахлёбка з бручкі бяз хлеба, на абед - тая ж пахлёбка з 200-грамовым кавалачкам хлеба, вячэра - пахлёбка з лістоты буракоў і кіпяток бяз цукру. Тлушчу асуджаныя не атрымоўвалі.

Першымі пачалі гінуць нямецкія жаўнеры. Уладзімір бачыў, як яны слабеюць на 35-цігрnative дусным марозе. Прыкметай таму было тое, што напачатку немцы несьлі бервяно па чатыры чалавекі, а праз нейкі час працы нават удзесяцяром не маглі адужаць тое самае.

За невыкананыя нормы людзей жорстка каралі. Самай страшнай карай быў карцэр. Драўляны будыначак, у якія замест падлогі былі набітыя рэдкія жэрдачкі. Нават некалькі гадзін у такім карцэры прасядзець было нельга, бо ў тых, хто трапляў туды, забіралі вопратку. Асуджаныя празвалі гэты дамок ледзяной лазьняй, бо адтуль чалавека даставалі, як глыбу ільда.

За першую зіму склад лагера скараціўся бадай на тры чвэрці. Нямецкіх жаўнераў, якія засталіся ў жывых, па загаду Масквы перавялі на больш лёгкія работы. Іх разьмеркавалі ў сталоўку і ў майстэрню.

Па некалькі разоў на тыдзень вязьням чыталі палітінфармацыі аб працоўных дасягненьнях савецкага народа ў пасьляваенны час. Асабліва многа ўвагі палітрукі надзялялі немцам. З імі паасобку час ад часу вяліся гутаркі. І тыя, хто перавыхаваўся, як лічылі палітрукі, адпраўляліся дадому. Іншым дазвалялася пісаць лісты да родных. Немцы гаварылі Уладзіміру, што каб ён не лічыўся рускім, то яму было б лягчэй. Хлопец хутка сьцяміў і з дапамогай немцаў змог перапраўіць ліст ў Польскае пасольства ў Маскве, дзе напісаў, што ён паляк з Пінску. Праз два месяцы Уладзіміра выклікаў палітрук лагера. Пагаманіўшы з гадзіну пра лёс Уладзіміра, пачаў казаць пра дружбу савецкага й польскага народаў. Палітрук цісьнуў на тое, што разам братнія народы хутка збудуюць камунізм. Уладзімір у знак згоды ўпэўнена хістаў галавою. Палітрук, задаволены тым, што яго гутарка мае плён, таксама праз дзень вызваліў новаспечанага паляка ад цяжкай працы. А яшчэ праз два месяцы Уладзіміру выдалі новую ватоўку, порткі, а разам з імі - бясплатны білет аж да Варшавы.

Тыдзень часу страціў Уладзімір, пакуль даехаў да Берасьця. Тут у яго скончыўся дарожны лагерны паёк. Да Варшавы даехаў галодны, але гэта не хвалявала. Наадварот, радаваўся, што вырваўся з сталінскага пекла. Успамінаў палітрука, які за падтрымку камуністычнай ідэі лютага ворага лічыў сябрам пралетарыяту.

У Варшаве на пастарунку "міліцыянтуў-калеяжуў" падаў свае сапраўдные паходжаньне. Начальнік пастарунку зьдзівіўся, што "пан хцэ ешчэ раз дотонт, скуль пшышэдл". Давялося тлумачыць, што не, а толькі тое, што тут ў яго няма радні. Міліцыянты накіравалі Уладзіміра да "улад мейскіх", дзе яму выдалі адначасовую дапамогу ў пяць тысяч злотых і накіравалі як ураджэнца "усі" на працу ў ПАГЭЭР. Шэсьць год ён працаваў у калектыўнай гаспадарцы, а затым восеньню 1952 года узяў поўны разьлік і ад'ехаў шукаць шчасьце да Амэрыкі. Лёс закінуў Уладзіміра Германовіча ў далёкую Аргэнтыну. Тут ён знайшоў сабе працу агэнта-распаўсюджвальніка кукурузнай мукі.

Пасьля лагераў, дзе было толькі прыніжэньне годнасьці, новая праца прыносіла задавальненьне. Уладзімір многа езьдзіць па сьвету, сустракаецца з людзьмі. Частыя пераезды мала-памалу гояць раны цяжкага юнацтва. І Уладзімір пасьля доўгіх год маўчаньня дасылае ліст родным на Беларусь, што ён жывы й жадае ведаць пра лёс родных, сяброў.

А каб не быць сынам-чужынцам для Радзімы, просіць свайго брата зьвярнуцца да ВС Рэспублікі Беларусь, каб высокі Савет народных абраньнікаў дапамог яму вярнуць нацыянальнае паходжаньне.

**Г.АСТРОЎСКІ.**

# БЕЛАРУС З ЛЕГЕНДЫ

Пра велікана Хведара Махнова, што нарадзіўся ў сялянскай сям'і бліз Віцебска ў 1878 годзе, і дагэтуль па сьвеце ходзяць легенды.

Бацькі Хведара і дзьве сястры былі звычайнага росту. Сам Хведар да 7 год таксама нічым не вылучаўся. Расьці ён пачаў значна пазьней не па днях, а па гадзінах. І да 12 год "перамахнуў" за два мэтры. Падчас найбольш актыўнага росту Хведар спаў амаль поўныя суткі. Растмач, як яго клікалі аднавяскоўцы, вылучаўся ня толькі ростам, але й сілай. Ва ўзросьце васьмі гадоў мог лёгка адужаць дарослага мужчыну.

Упершыню Хведара паказалі на людзі ў 14 год. Бацька ўзяў хлопца да Віцебску гандляваць яблыкамі. Прысутнасьць асілка-велікана на торжышчы была сэнсацыйнай.

Хутка мясцовыя валацугі-артысты запрапанавалі выкарыстоўваць яго сілу й рост у артыстычных нумарах. З трупай валацуг-артыстаў Хведар аб'езьдзіў шмат расейскіх гарадоў, былі гастролі па краінах Эўропы й нават ЗША. У сваіх нумарах асілак-беларус гнуў падковы, разьбіваў цэглу, лежачы падымаў пляцформу, на якой іграў цэлы аркэстр.

Падчас гастроляў артыст Махноў меў дужа клопату, бо транспарт, гатэлі, рэстарацыі былі разьлічаны на звычайных людзей. Відаць, таму, наезьдзіўшыся па сьвеце й зарабіўшы досыць сродкаў, віцебскі велікан вярнуўся на Радзіму, дзе набыў невялікі хутар.

Хведар Махноў пасьля набыцьця хутара ўзяў шлюб з вясковай настаўніцай Эфрасіньняй Лебедзевай. У маладой сям'і нарадзілася 5 дзяцей. Усе яны былі высокага росту, а самы высокі з дзяцей - Мікола - сягнуў пад 2 мэтры.

Рост вымагаў ад велікана Махнова многага: ён сам сабе збудаваў хату, ложак, сам шыў адзеньне й многае іншае. Даўжыня яго ступы была за паўмэтра, даўжыня далоні налічвала 32 см, вага сягала ў памерах 187 кіляў.

Аднак, нягледзячы на свой магутны целасклад, Хведар Махноў часта быў нядужы. У 1912 годзе, у 35 год, ён памёр ад сухотаў. Пахаваны Х.Махноў на мясцовых вясковых могілках.

Аднак яго злокаў у труне зараз няма. Да вайны шкелет Махнова быў перавезены ў Менскі мэдыінстытут у анатамічны музэй. Куды дзеўся шкелет Махнова падчас вайны - невядома. Але й дагэтуль на магільным крыжы Махнова стаіць надпіс, што рост яго быў 3 аршыны 8 вяршкоў - гэта роўна 254 см. Аднак тыя, хто ведаў Хведара Махнова, сцьвярджалі, што яго рост быў 3 аршыны й 12,5 вяршка, што складае 263 см. Родныя ж сцьвярджаюць, што яго рост быў на самай справе 285 см.

Калі гэта так, то беларус з Віцебшчыны Хведар Махноў быў самым высокім чалавекам на зямлі.

**Г.ДАМІНІКАНСКІ.**

ЗАМЕЖЖА

# НА НОВЫ ФАРВАТАР

Мік Джэгэр - славутая зорка музыкі стылю рок. Кэйт Рычардс - гітарыст і кампазытар. Музыкі разам стварылі музычныя праграмы "Сацісфэкшн", "Сымпатыя да дэмана", "Джампін Джэк Флэш", "Карычневы цукар", "Энджы". Яны былі звышпапулярнымі, сумесна спрабавалі выгоды турмы, "асалоду" наркотыкаў. Іх заробкі складалі больш нацыянальнага даходу такіх краін, як Эфіопія.

З 1985 года сябры разлучыліся, і кожны паасобку працягвае свой прафэсійны шлях. Мік выпускае вакальныя сольныя дыскі, Кэйт, наадварот, - аддае перавагу інструмэнтальнай музыцы. Індывідуальны шлях цягнуўся чатыры гады. У 1989 годзе музыкі аб'ядналіся й зноўку апынуліся на хвалі посьпеху.

Пра гісторыю свайго новага аб'яднаньня Мік і Кэйт распавялі ў інтэрв'ю часопісу "Пары-Матч". Адказаўшы паасобку на адны і тыя ж пытаньні, супэрзоркі высьветлілі, што застаюцца індывідуалістамі.

Мік Джэгэр на пытаньне, чаму ён вырашыў так сваю справу, згадаў наступнае: "Наша сумесная праца магла прынесьці посьпех толькі праз тры-чатыры гады. Чакаць я не пажадаў. Я не адзіны, хто выбраў такі шлях".

Кэйт Рычардс на аналягічнае пытаньне згадвае, што непаразуменьні паміж імі ў асноўным зьвязаны з тым, што музыкі вельмі добра ведаюць адзін аднаго. "Часам, будучы побач, мы адчувалі дыскамфорт, што й вырашыла наш лёс. Сама арганізацыя "Ролінг Стоунз" аказвала на нас больш узьдзеяньня, чым навакольнае асяроддзе. Існаваньне вялікай групы - заўжды цуд. Але я зьбіраў музыкаў для цуда, і цуд адбыўся. У "Стоунз" я быў лідарам-інструмэнталістам. Калі прыносіў у студыю новую кампазыцыю й быў нечым незадаволены, то сьледам за мной незадаволенымі рабіліся ўсе. Калі ж я так спрабаваў зрабіць, запісваючы солавую кружэлку, то ўсе працавалі ў зададзеным рытме і я заставаўся ў адзіноце. Ня будучы лідарам з другімі, я стала пачаў адчуваць прагу вяртаньня да сваіх музычных вытокаў. Пісаць песьні па замове Міка - гэта што шыць вопратку па індывідуальнаму праэкту. Роля шаўца настолькі ўелася ў маю душу, што існаваць працяглы тэрмін асобна ад Міка я ня мог."

Мік Джэгэр: "Нас з Кэйтам яднае нешта асобнае. Мы не Джон Ленан і Пол Макартні. Мы - нейкі кангламэрат стылю рэгі і баладнай песьні. Дадаткам для нас зьяўляюцца астатнія ўдзельнікі нашай групы. Калі мы выступаем на вялікіх стадыёнах, то складана спадзявацца, што туды прыйдуць адны меламаны, таму, каб зрабіць публіку сваёй, для мяне й патрэбны такі прафэсіянал, як Кэйт Рычардс, а я - для яго. Нас не цікавяць грошы. Галоўнае - быць побач і ствараць музыку".

(з.д.)

# ЭДЗІТ ПІАФ — АНЁЛ У ЧОРНЫМ

Алкаголь і морфій зрабілі сваю справу: яе жыццё пранеслася сапраўдным тайфунам, заставіўшы нам адзінае - яе голас.

Бадай трыццаць год прайшло з таго часу, як нас пакінула Эдзіт Піаф. Ёй было ўсяго сорак восем гадоў. Яе кружылкі выдаюцца й перавыдаюцца.

У сваіх песьнях яна сьпявала душой, сэрцам, але ніколі не адбывала нумару. Узрушаны сьпевамі Морыс Шэвалье назваў Эдзіт малечай-салавейкай.

Малечы-салавейку, які выступаў у кабарэ "Le Gemy", было ўсяго 20 гадоў. За некалькі месяцаў да гэтага выпадку ў рэстаране на беразе Сены Эдзіт згадала Мамоне - сваёй неразлучнай сяброўцы: "Тут мяне сустрэне посьпех. Аднойчы сюды прыйдзе імпрэсарыё й заўважыць мяне." Эдзіт нібы ў ваду глядзела. Яе першага пратэжэ клікалі Луі Лепле. Ён зайважыў яе на рагу вуліцы, дзе Эдзіт сьпявала за капейкі. Першае, што ён спытаў, - гэта імя сьпявачкі. Яна адказала:"Эдзіт Гасьён." "Дык ты ж проста парыжскі верабейка! На арго гэта будзе - Піаф."

З таго часу Эдзіт усе звалі Піаф.

Так нарадзілася імя зоркі. Хутка разам з тым, каго яна клікала бацькай Лепле, яна навучылася валодаць сваім голасам, трымацца на сцэне.

Лёс усьміхнуўся ёй двойчы. Другі раз, калі яна сустрэла чалавека, які стаў хутчэй яе каханкам і складальнікам песень. Раймон Асо натхняўся на творчасьць з страшных па зьместу аповядаў здарэньняў, у якія траплялa ў маленстве Эдзіт. Жабрацкае, поўнае цяжкасьцяў дзяцінства, каханьне на адну ноч, прастытуцыя, пьянства ў асяроддзі вольнага Парыжу ў супольцы з неразлучнай Мамонай сталі ўрэшце рэшт знакамітымі шлягерамі: "Браўнінг", "Яна гуляла па вуліцам Пігаль", "Парыж-Модзітэране", "Мой легіянэр" і многія іншыя. Дзякуючы ім Эдзіт дарасла да лепшага парыжскага кабарэ "АВС".

Пра Раймона Асо яна кажа так:"Ён мяне стварыў." І тым ня менш, яна кінула свайго куміра.

Эдзіт Піаф пакутавала й застаўляла пакутаваць тых, хто быў побач. Піці Луі, Жанна ле Марэн - яе першая пасія. Тэо Сапара - другі муж, на трыццаць год малейшы.

Яна ўмела дарыць ня лічыўшы. Іў Мантан і Шарль Азнавур - гэта яе пратэжэ, якія за ўдачлівы дзёгаць абавязаны удзячныя ёй.

Хоць Амэрыка й не сьпявала яе прызнаць, але зоркі Галівуда ўсёткі адступілі, чакаючы прыходу "анёла ў чорным".

На жаль, слава разбэсьціла Эдзіт да такой ступені, што яе апошнімі сябрамі былі алкаголь і морфій.

(з.д.)

## «ЛЕКАРЫ – ЗАБОЙЦЫ»

Амэрыканскі лекар Джэк Кэваркян, які дапамог пакончыць з жыцьцём болей як дваццаці пацыентам і названы калегамі "лекарам-забойцам", 2 траўня апраўданы судом штата Мічыган і адпушчаны на волю.

Апошнім "пацыентам" Дж.Кэваркяна быў трыццацігадовы Томас Хайд. Томас пакутаваў паралічом нэрваў, бадай ня мог рухацца, размаўляць, есьці бяз вонкавай дапамогі. Т.Хайд памёр у легкавіку лекара Кэваркяна, надыхаўшыся вугальнага монаксыда. "Лекар-забойца" апрануў яму маску, аднак Хайд сам націснуў на клапан і пусьціў сьмяротны газ.

У штаце Мічыган прыняты спэцыяльны закон, які павінен перарваць дзейнасьць Кэваркяна. Закон прадугледжвае кару мэдыкам за дапамогу жадаючым зьвесьці парахункі з жыцьцём. Аднак закон не вымагае кары ў выпадках, калі лекар жадае толькі палегчыць боль хвораму, а не забіць яго.

Як ні парадаксальна, аднак менавіта гэты закон дапамог апраўдаць Дж.Кэваркяна. "Галоўнай мэтай Дж.Кэваркяна й зьяўляецца вызваленьне пацыента ад болі", - згадаў яго адвакат Джофі Фігэр.

Кэваркян прыдбаў у ЗША ўжо шмат бакоўцаў, якія лічаць, што юрысты й мэдыкі адымаюць у безнадзейна хворых людзей магчымасьць адыйсьці са сьвету. Найбольш прыхільна да гэтага ставяцца родныя тых самазабойцаў, якім Кэваркян дапамог скарыстацца газам.

По матэрыялах замежнага друку падрыхтаваў Г.АСТРОЎСКІ.

*З ПОШТЫ*

# СЬВЯТКАВАНЬНЕ 76-ЫХ УГОДКАЎ АКТУ 25 САКАВІКА

**Амаль два месяцы прайшло пасьля 25 сакавіка, калі споўнілася 76 год з дня абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі, але дагэтуль у рэдакцыю "ПАГОНІ" паступаюць з замежжа віншаваньні й паведамленьні з гэтай нагоды. Прапануем іх увазе чытачоў.**

Шаноўнае спадарства!

Галоўная Ўправа Згуртаваньня беларусаў у Квэбэку, Прафэсіянальная Рада Парафіі Спаса ў Манрэалі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы й Рэдакцыя часопіса "ПРАМЕНЬ" віншуюць вас з нагоды 76-ых Угодкаў Абвяшчэньня Незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі й зычаць супрацоўнікам рэдакцыі, сябрам рэдакцыйнай калегіі, а таксама ўсім чытачам моцнага здароўя, шчасьця, вытрываласьці ў нялёгкай вашай працы Беларускага Нацыянальнага Адраджэньня, далейшых посьпехаў на гэтым цярністым шляху.

Ведайце пра тое, што ў далёкім ад нашай Бацькаўшчыны-Беларусі Квэбэку вы маеце гарачых вашых прыхільнікаў, уважлівых чытачоў, якія будуць прыкладаць усе намаганьні, каб дапамагчы вам пераадолець усе цяжкасьці на вашым шляху. Мы з вамі, з нашай Беларусьсю.

Жыве Беларусь!

Анатоль ХРЭНОЎСКІ,
Старшыня Згуртаваньня беларусаў у Квэбэку.
Раман КАРДОНСКІ,
Старшыня Парафіяльнай Рады й Рэдактар часопіса "Прамень".

***

Урачыстае сьвяткаваньне 76-ых угодкаў гістарычнага абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі Актам 25-га сакавіка 1918 года пачалося сонечнай раніцай 27 сакавіка адмысловай Божай Службай у Праваслаўнай Царкве Амэрыканскай Юрысдыкцыі ў прыгарадзе Сыднэя-Гомбуш, у якую прыйшло шмат беларусаў, каб ушанаваць угодкі гэтай сапраўды ВЯЛІКАЙ ПАДЗЕІ ў жыцьці беларускага народу. Настаяцель царквы, беларус з Беласточчыны Айцец Ігар падрыхтаваў спэцыяльную малітву за незалежнасьць Рэспублікі Беларусь і за беларускі народ, напрыканцы Царкоўны Хор пад кіраўніцтвам спадара Падгонскага выканаў напісаную Натальляй Арсеньневай малітву-сьпеў "Магутны Божа". Падчас Божай Службы ў царкве красаваўся Бел-Чырвона-Белы сьцяг, які трымалі Міхась Ціхан і Алесь Алехнік.

Афіцыйная Акадэмія адбылася ў Беларускім Доме ў прыгарадзе Фэрфілд і была афіцыйна адкрытая Міхасём Лужынскім, пасьля чаго былі прасьпяваны Беларускі Нацыянальны Гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". З цікавым дакладам выступіла Галя Базаленка, расказаўшы прысутным пра падзеі, што адбываліся на Беларусі, у прыватнасьці ў Менску, якім яна была сьведкай і якія прывялі да паўторнага абвяшчэньня сувэрэнітэту Беларусі 27 ліпеня 1990 года. Міхась Лужынскі праінфармаваў прысутных аб сакавіцкіх прывітаньнях, якія даслалі беларускія арганізацыі з Беларусі й іншых краін сьвету, а Янка Гавенчык зачытаў пасланае Архіпастырскае Пасланьне Першага Ярарха Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, Мэтрапаліта Мікалая.

Па заканчэньні афіцыйнай часткі пачаўся супольны абед, падрыхтаваны Жаночым Камітэтам у складзе Ліды Бакуновіч, Валі Спасывай, Ванды Марчэнка й Марты Юхневіч, які ў сяброўскай атмасфэры працягваўся да позьняга вечара, калі ўдзельнікі разьехаліся дамоў, напоўненыя прыемнымі ўражаньнямі ад угодкаў незалежнасьці далёкай ад Аўстраліі, але роднай усім беларусам Маці-Беларусі.

Алесь АЛЕХНІК.

# ДЗЯКУЮ ЗА ТОЕ, ШТО ВЫ ЁСЬЦЬ

Паважаная й дарагая рэдакцыя газэты "Пагоня" - усе добрыя, шчырыя людзі, якія так добра, сьмела, сумленна працуюць дзеля здабытку нашай Беларусі й якія праўду з-пад пяра свайго ахвяруюць. Ваша добрая, шчырая газэта нас усіх цешыць і, як Божы прамень, саграваe, заклікае да сапраўднай будучыні, міласэрднасьці й праўды.

Жадаю Вам усім здароўя, посьпехаў у Вашай вельмі плённай, так патрэбнай працы, шчасьця й дабрабыту ў жыцьці.

За Вашу сардэчную, добрую працу, за Вашу праўду хай Усеміласэрдны наш Пан Бог благаслаўляе ўсіх Вас і Вашых нашчадкаў.

З вялікай пашанай
бабуля Крысьціна ГАРАДЗЕНСКАЯ.



ГАРАДЗЕНСКІЯ ВУЛІЦЫ.

Фатаграфаваў В. ГАРОШКА.

